


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (1108) ГОД XXII БЕЛАСТОК 22 МАЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.


# З іх рук

Сабраліся найлепшыя. Прыехалі з усіх куткоў Беластоцкага ваяводства, каб падвесці вынікі мінулагодняга спаборніцтва ў двух конкурсах:

**„Гміна — майстар гаспадарнасці“.**

**„Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“.**

Першае месца заваявала гміна **Монькі,** другое — гміна **Крыпна** і далей гміны: **Кнышын, Карыцін** і **Чыжы.**

Яны аказаліся найлепшымі сярод 41 гміны Беластоцкага ваяводства, якія прымалі ўдзел у гэтым спаборніцтве. Гонар усходняй Беласточчыны выратавала Чыжоўская гміна. Усе іншыя перадавыя гміны знаходзяцца ў паўночна-заходняй частцы ваяводства. Здаецца, **там сяляне раней зразумелі, што цяпер можна і варта зусім добра жыць у вёсцы, што ўласная гаспадарка з'яўляецца таксама добрай крыніцай багацця.** Наглядна паказвае гэта зацікаўленне спаборніцтвам. Найбольш гаспадароў прымала ў ім удзел з гмін Бранск, Дзятковіцы і Дабжынева. Выключэннем тут з'яўляецца гміна Орля. Яна не дабілася ані першынства, ані прэміраванага месца, аднак сярод удзельнікаў конкурсу *„Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“* знайшлося ў Арлянскай гміне амаль 90 працэнтаў усіх вёсак.

На жаль, нельга гэтага сказаць аб гмінах Міхалова і Гарадок. У Міхалоўскай гміне ў конкурсе ўзяло ўдзел ледзь чатыры вёскі на 50, а Гарадок змог „пахваліцца“ аж дзвюма вёскамі ў конкурсе.

У рамках гэтых конкурсаў сяляне змагаліся за званне **„Прыкладны гаспадар“** і **„Майстар сельскагаспадарчай прадукцыі“.** Званне **майстра** ў мінулым годзе дабіўся на Беласточчыне 521 селянін, а званне *„Прыкладны гаспадар“* заваявалі 724 жыхары вёсак.

Гэтымі званнямі нашы ўлады не надта ж раскідаюцца. Іх заваявала ледзь трэцяя частка ўсіх удзельнікаў спаборніцтва. **Трэба сапраўды добра гаспадарыць, даваць прадукцыю намнога вышэйшую ад сярэдняга ўзроўню ў сваёй вёсцы, гміне і ваяводстве, каб заваяваць такое званне.** У перадавых гмінах (Монькі, Крыпна, Чыжы, Гродзіск, Кнышын) прадукцыя збожжа перавышае сярэднія ваяводскія паказчыкі на 10 цэнтнераў з 1 га, бульбы — на 60 цэнтнераў, а сена — на 30 цэнтнераў. Некаторым з перадавых сялян удалося ў мінулым годзе ў 10 разоў апярэдзіць сваіх суседзяў. Для прыкладу: **Мечыслаў Яцэвіч** з гміны Янаў гаспадарыць на 14 гектарах ненайлепшай зямлі. Спецыялізуецца ён у гадоўлі парсюкоў-вархлякоў. Дастаўляе іх ПГР-у Якаўляны. У мінулым 1976 годзе прадаў 260 штук, **так, 260 штук з адной сваёй гаспадаркі.**

І зусім ён не выглядае на заморанага чалавека, які за цяжкай працай ужо і свету не бачыць.

— Пры такой прадукцыі, — кажа ён, — даводзіцца больш галавой, чым рукамі варочаць. У мяне амаль усё механізавана.

**Казімір Смарчэўскі** гаспадарыць на 15 га. Гадуе 13 дойных кароў, 7 яловак і яшчэ 4 букаты. Разам 24 штукі. Кожны дзень дастаўляе ў злеўню — у залежнасці ад пары года — ад 150 да 180 літраў малака.

**Крыстына Багушэўская** з вёскі Верцень Малы ў Сямяціцкай гміне разам з мужам мае 9,5 га зямлі, якая залічана да IV і V класаў якасці. Няма ў іх сенажаці. І нягледзячы на гэта, рашылі яны спецыялізавацца ў гадоўлі малочных кароў.

— Я, — кажа Крыстына Багушэўская, — нарадзілася ў вялікім горадзе і не мела аніякага ўяўлення аб гаспадарцы. Муж рашыў вярнуцца на вёску, а я — не скажу што па ахвоце — прыехала разам з ім. Распачалі мы сваю сельскагаспадарчую адысею 6 гадоў таму назад. **Цяпер маем добра абсталяваны жылы дом для сябе і поўнасцю механізаваную абору для жывёлы.** Гадуем 7 дойных кароў і дзве ялоўкі, якія неўзабаве ўжо аценяцца, а да таго яшчэ маем 6 цялят. З кожнага гектара сельскагаспадарчых угоддзяў прадаем дзяржаве ў сярэднім 2500 літраў малака, а ў год — 28 тысяч літраў.



*Вёска Чыжы.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

Значыць, можна, калі хто хоча. І нельга забываць, што добра гаспадарачым сялянам, асабліва тым, якія атрымалі карты **„Спецыялістычнай гаспадаркі“, дзяржава ахвотна дапамагае.** І гэта зусім слушна. Яны пустых рук дзяржаве не выцягваюць. Будучыню сельскагаспадарчай Беласточчыны кшталтуюць яны самі.

**Віктар Рудчык**




На цэнтральным аглядзе тэатральных калектываў БГКТ у бягучым годзе ў Бельску гарадоцкія самадзейнікі паказалі п'есу А. Рылько „Гора чубатае“ і занялі першае месца. Ацэнка журы агляду цалкам справядлівая, прыглядзімся ж, хто здабыў яе для Гарадка. У саставе пяціасабовага калектыву выступілі: **Бурачэўская Тамара** — кіраўнік гміннай бібліятэкі; **Лукошык Мар'я** — адказная за справы асветы, культуры, адпачынку, спорту, турыстыкі і грамадскай апекі працаўніца гміннага ўпраўлення; **Савіцкая Наталля** — бухгалтар у сельскагаспадарчым банку; **Лукошык Уладзімір** — дырэктар кааператыва сельскагаспадарчых гурткоў (СКР-у) і **Мушынская Ніна** — фармальна яна пенсіянерка, а на самай справе таленавіты акцёр, спявак, дэкламатар, дэкаратар, рэжысёр і кіраўнік гарадоцкага самадзейнага калектыву ў адной асобе, пры гэтым з 25-гадовым стажам. Таму дзівавацца першынству Гарадка ў беларускім самадзейным тэатральным руху няма чаго, але тое, што прымае ў ім удзел самая „смятанка“ культурнага і грамадскага жыцця мястэчка — гэта ўжо незвычайная з'ява, а ўжо факт, што адказныя за развіццё культуры і гаспадаркі на абшары гміны людзі патрапяць на сцэне сыграць ролю і заспяваць песню як сапраўдныя акцёры і спевакі — гэта ўжо фенамен не толькі ва ўсёй Беласточчыне. Бо як ні кажы, але ў нас мясцовая інтэлігенцыя не надта ахвотна горнецца да ўдзелу ў самадзейнасці, не спяшаецца, мякка кажучы, даказваць, што іменна яна павінна развіваць культурнае жыццё ў сваім асяроддзі.

Паслухаем жа саміх гарадоцкіх самадзейнікаў.

— У самадзейным руху я ўжо даўно, — кажа **Т. Бурачэўская.** — Пачала ў ім удзельнічаць гадоў дванаццаць назад а то і болей. Праўда, з невялікімі перапынкамі на выхад замуж і пакуль дзеці падраслі. У харавым калектыве я спяваю і дэкламую. А ў гэтым годзе і ў тэатральным калектыве давялося выступіць. Спачатку спаўняла я ў ім ролю вельмі скромную і незаўважальную для гледачоў — была суфлёрам. Але вось адна з нашых актрыс абавязана была ехаць на экзамен на атэстат сталасці. Бяда, некалькі месяцаў працы над п'есай прападала за нішто. І я пашкадавала сваіх сяброў — згадзілася замясціць выязджаючую. Выйшла, ведаеце, значна лепш, чым я спадзявалася. Роля мая была вельмі канкрэтная і мне адпавядала. Зрэшты, п'еса гэтая надта актуальная, з глыбокай думкай, выконвалі яе з вялікай ахвотай.

(Працяг на стар. 4)



*Сцэна з „Гора чубатага“. Ніна Мушынская (справа) і Тамара Бурачэўская.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

## ХРОНІКА

23.IV.1977 г. у гданьскім клубе Беларускага грамадска-культурнага таварыства адбылася вельмі цікавая сустрэча з членам літаратурнага клуба ў Беластоку пры Альштынскім аддзеле Саюза польскіх літаратараў Васілём Петручуком і паэтам, журналістам „Нівы“, Міхасём Шаховічам.

Васіль Петручук расказаў пра сваю літаратурную дзейнасць і чытаў свае творы: „Закалядаваў“, „Сушыльня“ і іншыя. М. Шаховіч чытаў свае вершы, а потым расказаў пра беларускі літаратурны рух на Беласточчыне і выдавецкую дзейнасць БГКТ.

Спатканне адбылося ў вельмі прыемнай атмасферы. Хочацца толькі пажадаць, каб такія сустрэчы адбываліся часцей.

**А. Красько**






## Гора з мільёнамі

Будучае з самага пачатку прывабна ўсміхалася Хрысціне Анасіс, дачцы вядомага грэчаскага мільянера Анасіса, які меў у розных краінах свае дамы і нават уласны востраў і ў канцы жыцця ажаніўся на ўдаве былога прэзідэнта ЗША Кенедзі. Багаты, знакаміты бацька ганарыўся любімай пястухай і выводзіў яе ў вялікі свет, далучаючы да сваёй славы. Але вось два гады назад ён памёр, і юная неспрактыкаваная дзяўчына, адзіная наследніца мільёнаў, засумавала не толькі з-за цяжкай страты самага блізкага і роднага чалавека. У адчаі яна палічыла, што са смерцю бацькі парушылася бясхмарнае яе жыццё, што яна назаўсёды засталася бездапаможнай са сваімі капіталамі, якія пачалі страчваць былую папулярнасць сярод багацейшых дзялкоў свету. Трэба было знайсці нейкае выйсце, самой будаваць сваё жыццё. Трэба было і з багатай спадчынай нешта рабіць. Куды падзець такія грошы? Хоць раздай беднаце.

Так дачка нябожчыка-мільянера прыйшла да думкі, што ёй неабходна знайсці вернага памочніка і друга. Хрысціна Анасіс двойчы выходзіла замуж і двойчы разводзілася. Абодва шлюбы не прынеслі чаканага задавальнення. Тады яна стала проста ездзіць па зарубежных краінах у пошуках шчасця. У сваіх вандраваннях Хрысціна пазнаёмілася з Нікаласам Пацекісам, сынам багатага грэчаскага эмігранта, які шукаў шчасця ў чужой старане. Гэты чалавек добры знаўца сучаснага свету, а галоўнае, мае эканамічную адукацыю і ведае, як распараджацца мільёнамі. Маладыя людзі разам наведалі многія цікавыя мясціны, арганізавалі паездку ў Аргенціну, дзе бацька Хрысціны нажыў калісьці першы мільён, купляючы старыя ваенныя караблі для перавозкі грузаў, і рабаўніцкі эксплуатаваў беспрацоўных.

Буржуазныя газеты з цікаўнасцю сочаць за жыццём маладой гаротнай грачанкі, сенсацыйна паведамляюць, што яна ўжо выйшла са стану роспачы, знайшоўшы агульную мову са сваім суайчыннікам і, напэўна, у хуткім часе выйдзе замуж. Так што зараз дачка мільянера ўжо не турбуецца наконт сваёй невядомасці. Маларамалу яна набывае сваю ўласную папулярнасць і ёй не трэба аддаваць мільёны тым, хто не мае сёння за што купіць кавалак хлеба.

## Гарады на плаваючай сушы

Выдатны японскі архітэктар Кіёнары Кікутакэ выступіў з наватарскім праектам у будаўніцтве гарадоў. Ён прапанаваў стварыць ля ўзбярэжжа Такійскага заліва некалькі плаваючых астравоў, сабраных з вялікіх пласкадонных жалезабетонных баржаў. Калі такую баржу даўжынёй 200 і шырынёй 50 метраў перакуліць уверх дном і напампаваць у яе паветра, створыцца пантон, здольны прыняць на сябе да 20 тысяч тон грузу. Злучаныя паміж сабой некалькі соцень пантонаў стануць выдатнай будаўнічай пляцоўкай, на якой узнімуцца жылыя кварталы са школамі, бальніцамі, стадыёнамі і паркамі.

Астравы сістэмы Кікутакэ можна „заякарыць" практычна ў любым месцы ўзбярэжжа, дзе глыбіня не менш чым пяць метраў. Жыллёвае і прамысловае будаўніцтва на штучных астравах будзе каштаваць значна танней, чым на зямлі: адпадзе неабходнасць у дарагіх антысейсмічных канструкцыях, без якіх не ўзводзяць цяпер ні адзін дом у Японіі.

Плывучыя астравы — не першы „водны" праект масцітага архітэктара. Па яго чарцяжах ужо быў пабудаваны „Акваполіс" — гіганцкі павільён-паплавок для сусветнай акіянічнай выстаўкі „ЭКСПО-75" на Акінаве.



*Спартыўнае свята на стадыёне „Дынама" ў Мінску.*

ВЕСТКІ З БССР

## ХІРУРГ УШЫВАЕ ЛАТКУ

У Мінску жыве і цудоўна сябе адчувае чалавек, у целе якога хірургі нядаўна пакінулі... кусок марлі. Але рассеянасць на гэты раз была ні пры чым. Выпрабоўвалася раствaральная тканіна для пратэзавання, створаная вучонымі Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР, Беларускага навуковадаследчага інстытута пераліванння крыві і БДУ імя У. І. Леніна. „Латка" або мембрана з такой марлі служыць ролю арматуры, якая паступова абрастае нервамі, сасудамі, злучальнай тканкай і толькі потым разбураецца.

Медыцыне вядомыя такія матэрыялы, але яны, на жаль, маюць вельмі істотны недахоп — пачаўшы рассыпацца, страчваюць трываласць і ўжо не могуць вытрымліваць значных нагрузак. У той жа час нераствораныя валокны перашкаджаюць жывой тканцы заняць іх месца. Небяспека пасляаперацыйных ускладненняў у такі перыяд рэзка павялічваецца.

Звычайныя баваўняныя ніткі, апрацаваныя па прапанаванаму хімікамі метаду, набываюць здольнасць рассыпацца ў арганізме, прычым тэрміны распарэння залежаць ад працягласці апрацоўкі. Марля, сатканая з розных ніцяк, траціць трываласць паэтапна, і жывая тканка паспявае запоўніць месца валокнаў.

У навінкі ёсць і яшчэ адна перавага перад сваімі сінтэтычнымі папярэднікамі. Клеткі не адхіляюць яе таму, што яна, як жывая, актыўна ўдзельнічае ў абмене рэчываў. І сама аснова ніцяк, і напаўняльнікі, якімі іх апрацавалі, складаюцца з тых жа рэчываў, што ёсць у жывым арганізме. Клеткі, „ашуканыя" такім падабенствам з сабой, ахвотна прымаюць суседства і значна хутчэй засяляюць падрыхтаваную для іх жыццёвую прастору.

Для гэтай незвычайнай тканіны, абавязанай сваім нараджэннем медыцыне, нечакана знайшлася работа і ў харчовай прамысловасці. Яна аказалася здольнай улоўліваць з віна іоны металаў, якія праходзілі да гэтага часу праз любыя фільтры. Ачыстка з дапамогай новага матэрыялу дасць магчымасць рабіць віно празрыстым, збавіць яго ад пабочных пахаў. Такія фільтры здольныя лёгка „ўзяць" з малака няўлоўны кальцый. Дыэтычныя прадукты, атрыманыя з сыравіны, якая пройдзе апрацоўку, будуць вызначацца высокай якасцю.

**Д. Патыка,**
Кар. Белта.

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## ВЕТЭРАНЫ

*Быў год, здаецца, 1937. Перад 1 Маем не ўдалося нам дастаць з волі чырвонага палатна на першамайскія банты. Камуна, якая ў той час дзейнічала ў турме патаемна, загадала, каб кожны з камуністаў сам расстараўся чырвоны бант. І ведаеце, што мы рабілі? Адрывалі ад сарочкі крыху белага палатна і фарбавалі яго ўласнай крывёю, каб у дзень 1 Мая выступіць на прагулцы з чырвонымі бантамі.*

Вось чаму мы яшчэ і цяпер спяваем: *„Сцяг наш чырвоны, бо рабочых кроў на ім".*

Такі **бант**, калі б захаваўся, я прапанаваў бы аправіць у залатыя рамкі і, як святую рэліквію, перадаць у музей.

Вось **Язэп Маркоўскі.** Чалавек, якога не змаглі зламаць ані катаванні ў засценках буржуазнай **„дэфензівы"**, ані самыя невыносныя, здавалася б, умовы ў гітлераўскіх лагерах смерці.

Вось **Лукаш Леўчук, Раман Мордань, Павел Рыбачук, Зыгмунт Шлізерман, Антон Турык і Піліп Кізевіч. Людзі — гісторыя. 50 гадоў свайго жыцця кожны з іх аддаў высакароднай справе:** *змаганню за грамадскую роўнасць і справядлівасць.*

Вось тут гэтыя словы пачынаюць яснець поўным блескам свайго глыбокага зместу. Бо кожны з іх — жывая аповесць.

Гэта да іх ад імя экзекутывы Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку з нагоды **Першамая** сакратар **Уладзіслаў Юшкевіч** звярнуўся з **прывітальным лістам.**

Язэп Кізевіч не змог асабіста атрымаць яго з рук сакратара. Цяжкая хвароба прыкавала яго да ложка. Дзеяч „Грамады", КПЗБ, Таварыства беларускай школы.

...Былі яшчэ іншыя, не менш заслужаныя. Прыйшлі на сяброўскую сустрэчу з кіраўніцтвам Ваяводскага камітэта партыі. Прыйшлі паслухаць, як каласіцца засеянае імі зерне, якімі поспехамі можа пахваліцца Беласточчына. А поспехі гэтыя заманлівыя. **Ніколі так шпарка, так усебакова не развіваліся нашы родныя старонкі, як цяпер.** Ветэраны дачакаліся здзяйснення тых ідэй, якім прысвяцілі ўласнае жыццё. Іх мары сталіся будніiшняй рэчаіснасцю.

Пасівелыя рэшткі валос, а ў глыбокіх маршчынах твараў запякліся, здаецца, усе цяжкасці іх доўгага і працавітага жыцця, жыцця, прысвечанага змаганню. І толькі позірк па-даўнейшаму астаўся бадзёры і смелы, а на грудзях, на фоне святочных убораў, залатым блескам зіхацяць цяпер шматлікія ўзнагароды — доказ іх самаахвярнасці і прызнання ім.

**Ветэраны рэвалюцыйнага і рабочага руху.** Людзі, якія ва ўмовах жорсткага прыгнёту мелі адвагу сеяць зерне праўды, роўнасці і справядлівасці...

Як жа гэтыя словы выцерты ад частага ўжывання. Зараз сужывем мы з імі, як з паветрам. Без паветра не маглі б мы вытрымаць і пяці мінут. Аднак яго прысутнасці зусім не адчуваем, бо яно проста ё с ц ь. Таксама цяпер адносімся і да зместу слоў: **грамадская роўнасць і справядлівасць. Яна проста ёсць.** Але ў адрозненне ад паветра — **яе не было.**

Зерне праўды! Каб яно расло, прыходзілася паліваць яго сваім потам і ўласнай крывёй.

І зноў словы надта ж агульныя, якім не пад сілу перадаць гэтага ц я ж а р у штодзённага іх жыцця.

Вось **Лідзія Бялецкая.** Ад юнацкіх гадоў звязала свой лёс з **камсамолам Заходняй Беларусі,** бегала з лістоўкамі і пракламацыямі, а замест на дзявочыя вечарынкі, хадзіла на падпольныя сходы. Давялося спрабаваць і турэмнага хлеба. Аб сабе, аб сваіх асабістых справах, аб уладкаванні свайго ўласнага лёсу не давялося ўжо падумаць.

Вось **Хведар Савіцкі.** За ім Картуз-Бяроза, за ім гады зняволення ў беластоцкай турме, а пасля вызвалення — стойкае змаганне з бандытызмам.

Нядаўна расказаў ён мне вось такое здарэнне:

— *Сядзеў я ў беластоцкай турме.*

**Віктар Рудчык**




**Sobota — 21.V.** Studio 8. 17.15—18.40 Wyścig Pokoju. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik.

**Niedziela — 22.V.** 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Wielcy odkrywcy — film ser. 11.35 Biało-czerwona nad Alaską. 12.00 Dziennik. 12.20 Rolnicze rozmowy. 12.50 Tylko w niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik.

**Poniedziałek — 23.V.** 12.45 RTV szk. śred. Chem. 13.25 Biol. 15.25 NURT. 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Ocalenie starego Kłodzka. 17.00 Zwierzyniec. 17.35 Dla harcerek i harcerzy. 17.55 Pr. muz. 18.10 Janosik — ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. M. Gorki „Letnicy". 22.35 Camerata. 23.00 Dziennik.

**Wtorek — 24.V.** 6.30 RTV szk. śred. Chem. 7.00 Biol. 7.35 Książę Bob — fab. film węg. 9.00 Dla klasy I lic. J. pol. 10.00 Dla klasy I—III. Czerw., żółte, ziel. 12.00 Dla klasy VIII. Hist. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Mł. 17.10 Pr. publ. 17.35 Kółko i krzyżyk. 17.50 Mag. motoryzacyjny. 18.10 W Starym Kinie. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Recital Igora Ojstracha. 21.05 Rodziny Straussów — serial. 22.05 Świadkowie. 22.25 Świat i Polska. 22.55 Dziennik.

**Środa — 25.V.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 7.30 Leśny miód — fab. film radz. 9.00 Dla klasy VI. Fiz. 10.00 Dla klasy VII Fiz. 11.05 Dla klasy VIII. Fiz. 12.00 Dla klasy VII—VIII. Wych. muz. 12.45 RTV szk. śred. J. pol. 13.25 Mat. 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Horoskop. 16.40 Los. Małego Lot. 16.55 Sutjesta — film fab. jug. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Sport. 21.55 X Y Z cz. I. 22.20 Teatr Komedii. T. Falk „Lew". 22.45 Dziennik. 22.55 X Y Z cz. II.

**Czwartek — 26.V.** 6.30 RTV szk. śred. J. pol. 7.00 Mat. 9.00 Dla klasy I lic. J. pol. 9.25 Pójdziesz swoją drogą — fab. film NRD. 11.05 Dla klasy III lic. J. pol. 12.00 Dla klasy VIII. J. pol. 13.45 RTV szk. śred. J. pol. 14.30 Mat. 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Sport. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Reportaż wojskowy. 18.20 Przygoda z nauką. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji. E. Morgan „Przecież Ty nie żyjesz". 21.40 Pegaz. 22.25 Dziennik.

**Piątek — 27.V.** 6.30 RTV szk. śred. J. pol. 7.00 Mat. 8.55 Teatr Sensacji: E. Morgan „Przecież Ty nie żyjesz". 10.00 Dla kalsy VI. Geogr. 11.05 Dla klasy II. Wszędobylski. 12.00 Dla klasy VIII. Wych. Ob. 12.45 RTV szk. śred. Fiz. 13.25 Tech. Rol. Mech. rol. 15.25 NURT. 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stadiony. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Sensacje z przyszłości .17.45 Sylwia — serial. 19.00 Dobranoc, 19.30 Dziennik. 20.30 Niedziela pewnego małżeństwa w mieście przemysłowym średniej wielkości — film TP. 21.25 Teatr TV M. de Chelderode „Wędrówki mistrza Kościeja". 23.10 Dziennik.




**Piątek 20.V** — 8.30 Film fab. 18.15 Koncert. 18.45 Nasza biografia. 20.30 Pr. estrad. 21.15 Balet 21.50 Wyścig Pokoju.

**Sobota 21.V** — 13.05 Film fab. 16.00 Nie do wiary. 18.00 Cyrk. 18.55 Film fab. I cz. 20.30 Film fab. II cz. 22.20 Wyścig Pokoju.

**Niedziela 22.V** — 13.15 Film fab. 16.00 Panorama międzynar. 16.30 Film anim. 17.15 Piosenka — 77. 17.30 Klub film. 18.30 Film fab. 20.30 P. nożna. CSKA — Torpedo. II połowa. 21.15 Koncert.




**Białowieża** Niewierna żona — fr. 24—25. Oni walczyli za ojczyznę — radz. 26—27. Wspaniały mężczyzna — buł. 28—29.

**Bielsk Podl.** Pojedynek na szosie — USA 23—25. Pójdę za wami — radz. 26—27. Godziny grozy — ang. 28—29.

**Czyże** Ten cudowny piasek partyzanckich dróg — jug. Dulscy — pol. 25—29.

**Dubicze Cerkiewne** Mój kochany mąż i ja — NRD. To niemożliwe — radz. 25—29.

**Kleszczele** Co ważne w życiu — czes. 24—25. Noce i dnie cz. I. pol. 26—27. Noce i dnie cz. II 28—29.

**Michałowo** Tragedia Posejdona — USA 24—25. Papierowy księżyc — USA 26—27. To niemożliwe — radz. 28—29.

**Mielnik** Czterej muszkieterowie — panam. 25. Wielki układ — pol. 28—29.

**Milejczyce** Zaczarowane podwórko — pol. 24—25. Ocalić miasto — pol. 26—27. W krainie pieczonych gołąbków — NRD 28—29.

**Narew** Jak utopić dr Mraczka — czes. Flic story — fr. 25—29.

**Narewka** Oni walczyli za ojczyznę — radz. Opadły liście z drzew — pol. 25—29.

**Orla** Dzień szarańczy — USA. Rodzina — pol. 25—29.

B.Z.Graf. Zam. 1014 B-4




# ЧОРТАВА ЛОГАВА

Не, такога цуда я яшчэ не бачыў. Калі ёсць на свеце злая сіла, то абавязкова на дарозе з Шастакова да аборы, у якой філіял бельскага ПГР-у ў Новым Беразове букатаў гадуе, памясцілася. Чыстае чартоўскае логава. І жывёле і чалавеку спагады няма. Да таго развіла сваё балотністае гняздо, што не толькі праехаць, але і прайсці немагчыма. Ну, проста цырк з людзей робіць. Едзе аднойчы чалавек возам. Едзе... Каб гэта ехаў. Так толькі гаворыцца, што едзе. Бо ўжо як на калёсах, то адразу думаецца, што едзе. Па сутнасці, то конь бултыхае, толькі з-пад ног, быццам бы чартоўскі рогат, балотністыя бульбончыкі са свістам выплываюць, а воз суне, як нейкае страшыдла, балотам размаляванае. Сядзіць чалавек і думае: „Можа на гэты раз удасца, можа пралезем неяк...“ Ды не. З імі не выйграеш. Пралез конь метраў сто і стаў у палавіне дарогі. Ні туды, ні сюды. Так, як бы за ногі трымалі. А чалавеку хоць ты плач пад акампанемент балотнага булькання, якое адусюль далятае. Цешацца чэрці!

Ну, а ўжо тэхнікі то і вогуле неўзлюбілі. Як толькі трактар ўедзе, так і бывай здароў, пакуль на дапамогу са два не пад'едзе. З месца крануцца не дазволяць. Толькі балота з-пад калёс свішча ды дым з трубы валіць, а трактар на адным месцы стаіць. Хіба што крыху ніжэй асядзе. Туды можна. І пачалі людзі на хітрасць кідацца. Калі ёсць неабходная патрэба ехаць, то адразу па два выязджаюць. Адзін аднаго цягне. Ого! Чалавечая хітрасць вялікая. Розны прагрэс уводзіць. Нядаўна вынайшлі тут цікавую прыладу для транспарту букатаў праз гэтыя растопы. Ну, бо ж вядома, не жыць ім цэлы век у гэтай аборы. Падгадавалі — і на скупку адпраўляць трэба. Дык што? Ставяць у Шастакове машыны і з дзікім крыкам, пячатаючы спіны жывёліны каламі каб не паддавалася лазатым, гоняць з аборы аж у вёску. А там у прыцэпы — і паехалі. Цікавая вынаходка. Кол, як відаць, вартасная рэч. Не толькі першабытнаму чалавеку ён служыў. Ды тады што? Утрыццацёх нейкую звярыніну гналі. Цяпер усё ж такі выразны прагрэс. Некалькі чалавек штук сорак або і пяцьдзесят адолее. Наватарства. Можа б так апатэнтаваць. Вынаходка небывалая. Каб так яшчэ нейкую на паляпшэнне дарогі...

**Бізун**







Ці вы ведаеце, людзі добрыя, што такое гэта „*быковае*“?

Я таксама не ведаў, ажно нядаўна зусім нечакана давялося даведацца. А было гэта так. З гміны прыслалі павестку, каб ставіцца ў адміністрацыйную калегію пры начальніку на разбор справы. Прачытаў я адзін раз гэтую пісульку, прачытаў другі і нічога не зразумеў.

— Мяне ў калегію? — здзіўляюся, мармычачы сам да сябе. — За што?!

Я схапіў гэтую павестку і, быццам рыцынай падмазаны, паімчаўся да солтыса. Ён паглядзеў на мяне з нейкай з'едлівай насмешкай, прыплюшчыў вочы і кажа:

— Быковае будзеце плаціць...

— Якое быковае?

— А там вам скажуць, якое.

А ўсё ж, што такое „*быковае*“? Бычкоў сапраўды я трымаю. Трох букатаў. Два кожны год прадаю, а на іх месца стаўлю цялят. Цяпер ім ужо 15 месяцаў будзе. Да кароў хацелі б, каб пасваво8ліць крыху на пасбішчы. Яны на экспарт у Італію прызначаюцца, там некастраваных патрабуюць.

Адна бяда з гэтымі бычкамі. Цяжка іх ад кароў адагнаць. А тут яшчэ суседзі, ды і з другіх вёсак прыходзяць і ўмаляюць, каб пусціць маіх бычкоў у кампанію іх каровак.

— Хай паправіць пасля гэтага шкляннога бычка.

— Калі нельга. Выклікай інсемінатара, — паясняю.

(Працяг на стар. 5)




*Экслібрыс Віктара Лянгнера з Кракава.*

# МЯДЗВЕДЗІ МАГІСТРА БУХАЛЬЧЫКА

Гэтае незвычайнае захапленне паявілася ў яго роўна 20 гадоў назад, г. зн. тады, калі ён прыехаў у Белавежу і пачаў працаваць у Інстытуце даследаванняў млекакормячых ПАН. Пачаткова збіраў фігуркі ўсялякіх звяроў, але паступова сэрца яго заваяваў мядзведзь.

Азіраюся на пакоі. На маю думку, непрапісаных кватарантаў у доме сям'і Бухальчыкаў будзе не менш тысячы. Кватэра здаўна ператварылася ўжо ў сапраўдны музей.

Сваю калекцыю мгр Бухальчык падзяліў на 3 часткі — разьбу, графіку і апісанні. У першай царствуюць фігуркі мядзведзяў, выкананыя з разнароднага матэрыялу — дрэва, фарфару, гліны, каменя, металу, шкла, плюшу і т.п. Можна тут знайсці і белавежскія вырабы. Пачэснае месца займаюць дзве керамічныя фігуркі, якія былі выраблены ў Белавежы перад II сусветнай вайной. З паслявaенных варта назваць разьбу, запраектаваную С. Бароўскім, а выкананую мясцовым народным умельцам — Гігалем, фігурку з шышак ляснічага С. Банаха, або з кары — студэнта з Варшавы, які ў белавежскім інстытуце ПАН праходзіў практыку. Цікава выглядаюць гліняныя мядзведзяняты др А. Л. Рупрэхта, драўляныя фігуркі выхаванца белавежскага дзетдома — Я. Цесліка, а таксама... кадаўбак з выразаным на ім сілуэтам мядзведзя — праца Шляхцюка з Пагарэльцаў.

З іншых, ужо не белавежскіх вырабаў, варта сказаць пра такія цікавыя фігуркі, як мядзведзь-графін, зроблены Адамскім з Кракава, мядзведзь-затычка і адначасова мерка на порах, падораны Тадэвушу Бухальчыку Б. Катамаем з Глівіц, мядзведзь — прэс-пап'е або плюшавы, які сам ходзіць (пры дапамозе спецыяльнага механізма ў сярэдзіне). Асаблівую ўвагу прыцягваюць вырабы, выкананыя сляпымі — А. Русоцкім з Цехацінка і К. Паўлоўскім з Аўтустоўскай пушчы. Гледзячы на іх фігуркі, аж цяжка паверыць, што творцы рабілі іх, не бачачы сваёй працы.

Аздобай калекцыі з'яўляецца сям'я мядзведзяў, іграючых на розных інструментах. Яна закуплена ў СССР. Дзеля дакладнасці трэба сказаць, што гэта не адзіныя мядзведзі ў зборах Бухальчыка, якія былі выкананы ў Савецкім Саюзе. Ёсць іх тут многа. І амаль усе з'яўляюцца героямі нейкіх казак. Супольная іх рыса — гэта дбаласць у выкананні. Наймілейшай аднак рускай фігуркай з'яўляюцца для Бухальчыка фарфаравы мядзведзь ад праф. Яблакава з прысвячэннем „Галоўнаму мядзвежніку на памяць“. Праф. Яблакаў быў у мінулым годзе ў Белавежы і бачыў гэтую калекцыю. Яна яму вельмі спадабалася.

Т. Бухальчык выдзяліў у зборах месца для кур'ёзаў. Трапляюць сюды ўсе выродлівыя фігуркі — цацкі для дзяцей або такія, у якіх падрабязнасці целаскладу прыводзяць на думку, што іх творцы ніколі не бачылі жывога мядзведзя. За прыклад паслужыць тут могуць балгарскія мядзведзі з хвастамі, дасягаючымі зямлі.

У калекцыю ўваходзяць апрача польскіх, рускіх, балгарскіх, таксама фігуркі венгерскія, нямецкія, кітайскія, мексіканскія, японскія і інш.

Не менш цікава прадстаўлена ў калекцыі графіка. Трапляюць у яе ўсе малюнкі мядзведзяў, дзе б і на чым бы яны не знаходзіліся: на паштоўках, на этыкетках, значках, наклейках, фірмавых канвертах, торбачках, кулонах і на многім іншым. Часам чалавеку ў галаву не прыйдзе, дзе можа паявіцца адлюстраванне гэтых асілкаў пушчаў. Хто, напрыклад, падумаў бы, што можна яго знайсці на этыкетцы ад соскі? Самымі каштоўнымі ў гэтай калекцыі з'яўляюцца збор значкоў з гербамі гарадоў, на якіх ёсць, зразумела, мядзведзі, і збор паштовых марак з гэтым жа зверам. Зацікавіць можа таксама збор рысункавых гумараў, у якіх сімпатычны кудлач адыгрывае галоўную ролю.

Трэцяя частка калекцыі прысвечана апісанням мядзведзяў. Мгр Бухальчык збірае тут перш за ўсё літаратурныя апісанні, найахвотней у форме легендаў, анекдотаў. Але вядома, і навуковым апісанням тут месца знойдзецца.

Зацікаўленне Т. Бухальчыка мядзведзямі з'яўляецца яго пабочным заняткам, хаця ён у прафесіянальнай працы займаецца даследаваннямі над атрадам драпежных млекакормячых. Трэба ведаць, што мядзведзяў у Белавежскай пушчы здаўна ўжо няма. Аднак белавежскі вучоны ў гэтай галіне сапраўдны спецыяліст. Менавіта яму была даручана апрацоўка даклада „Буры мядзведзь у Польшчы“ на IV канферэнцыю, прысвечаную ахове і гадоўлі мядзведзяў, якая адбылася ў амерыканскім штаце Мантана ў бягучым годзе. Мгр Бухальчык апрацаваў на гэтую канферэнцыю таксама матэрыял аб сваіх зборах.

Магістр Т. Бухальчык — вядомы дзеяч на ніве аховы прыроды. І многа ў гэтым напрамку ўдалося яму зрабіць дзякуючы менавіта сваёй калекцыі. Ён выкарыстоўвае яе ў сустрэчах са школьнай моладдзю. Гаворачы аб ахове прыроды, дапаўняе сваю гутарку адпаведным камплектам з калекцыі і заўжды выклікае гэтым велізарнае зацікаўленне. На працягу 20 гадоў правёў сустрэчы з дзесяткамі школ у Беластоцкім, Варшаўскім і Лодзінскім ваяводствах. Наведаў не адзін гарцэрскі лагер. Усюды верна суправаджалі яго неадлучныя мядзведзі.

**Пётр Байко**
Фота аўтара



*Мгр Т. Бухальчык ля сваіх збораў.*




**НАШ ХУТАР**

*Вясною і летам*
*Хараство прыроды.*
*Макі сваім цветам*
*Красяць агароды.*
*У адзін палетак*
*Паплавец зялёны,*
*Малачайных кветак*
*Жуўкацят мільёны.*
*Выган зарастае —*
*Корчыкі, альшына;*
*Гнёзда ў іх хавае*
*Ўсякая птушына.*
*Рано сюды прыдзеш*
*Кароўку ўчапляці,*
*Хутка не адыдзеш,*
*Хочаш пастаяці.*
*І куды не зойдзеш,*
*Куды б не заехаў,*
*Весялей не знойдзеш,*
*Як хутарок грэхаў.*

**А. Леўшук**

(грэхаў — так называюць наш хутар. А. Л.)

*ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ*



*Калі Ян Янель з Цісоўкі гм. Міхалова навёў веснавыя парадкі на сваім панадворку, тады вышаў сабе на папяросу на вуліцу.*

*Фота М. Гайдука.*




**корнатка** — выцягнуты з зямлі сухі пень, найчасцей яловы, або хваёвы, які служыў на распалку. Гэн в ліесі туолькі сухіх корнаток, а в нас лучыны на роспалку нэма.

**опуолок** — першая частка, уздоўж адрэзаная ад дрэва. А ты б прыйехав і опуолкув в мэнэ взяв, той позабівав бы шчыт імі, пока досок достанэш.

**прысвяток** — невялікае свята. Колілень прысвятком трэба будэ пэрэйехаті і побачыті, што там за лонка прадаецьця.

**сподуовка** — дошка, якую кладуць на дно воза. Ну і нашто ш ты гнуйніці поклав? Чы ш ты нэ бачыш, што сподуовкі шчэ нэма.

**сторона** — частка стадолы, прызначаная да складання кармоў, збожжа, саломы і г.д. О, в нас сторона вэліка! Всё збуожэ вложымо і туолькі оно чуть-чуть понад балёк выйдэмо.

**прысторонок** — нізкая драўляная сценка, аддзяляючая старану ад току. Ну, в нас сёголіта як ніколі — половіна зімы оно пройшла, а сіена туолькі руовно с прысторонком зосталося.

**(Гародчына, гміна Чыжы.)**

# РЫГОР РУТА



Яго дзяцінства не было лёгкім. Сіратою стаў у пяць гадоў. Свайго бацьку мала помніць. А пра бацьку Рыгоравага варта некалькі слоў сказаць. Зваўся таксама Рыгор і належаў да КПЗБ. У вёсцы Грабавец больш было такіх: Фёдар Васілюк, Сцяпан Несцярук, Аляксей Леанюк, Павел Шыманюк і іншыя. Вёска была з традыцыямі камуністычнага руху і, калі паўстала савецкая ўлада восенню 1939 года, Рыгор Рута стаў яе гарачым прыхільнікам і актывістам.

Добры час скора кончыўся. Фашысты вераломна напалі на Савецкі Саюз. Запанавала цемра. Хто мог, той па-рознаму распачаў барацьбу супраць акупантаў. Не сядзеў і Рыгор Рута. Збіраў зброю на тых месцах, дзе нядаўна праходзілі баі, і перадаваў яе партызанам. Але ў вёсцы знайшоўся здраднік і выдаў самых лепшых яе сыноў. Арыштавалі Рыгора Руту, Сцяпана Несцерука, Фёдара Васілюка і Аляксея Леанюка на Тройцу 1943 года. Пасля цяжкіх катаванняў і здзекаў гэтых людзей вывезлі ў канцлагер „Асвенцім“. Не вярнуўся адтуль і Рыгор. Засталіся сіратамі пяцёра маленькіх дзяцей — 4 хлопцы і сястра. Маці Хрысціна, як магла, апекавалася дзецьмі. Цяжкі быў час.

Калі падраслі і калі запанавала народная ўлада, усё змянілася. Старэйшыя браты пасля адышлі, пажаніліся і сёння жывуць прыкладна. Рыгор недзе ў 1968 годзе купіў стары будынак у вёсцы, адрамантаваў яго, і сёння ён прыгожы і прасторны. Пабудаваў тыповую клуню і хлеў. Так, як і бацька, сын Грыша таксама дзеяч і актывіст і не мае вольнай хвіліны — усе іх прысвячае грамадскай працы. Але ён і гаспадар добры. Зямлі многа не мае, 6 гектараў, разам з лугам. Але спецыялізуецца ў свінагадоўлі, гадуе 15 кормнікаў. З гектара збірае 27 цэнтнераў збожжа. З прапашных найбольш садзіць бульбу. Восенню мінулага года прадаў дзяржаве 2 тоны гэтай культуры, мог прадаць і больш, ды пакінуў на кармы свінням.

Тры гады таму жыхары вёскі выбралі Грышу солтысам, і гэты свой абавязак ён выконвае вельмі добра. Ён жа і прэзас мясцовага сельгасгуртка, і ўзорны армовец. Варта яшчэ сказаць, што на сваю палеткі і сенажаці Грыша падсявае многа мінеральных угнаенняў — па 280 кілаграмаў НПК.

Улады Дубіцкай гміны высока цэняць дзейнасць і гаспадарлівасць солтыса вёскі Грабавец, і не толькі ўся гміна, але і далей ведаюць пра Рыгора Руту. Маці Хрысціна жыве пры Грышы. Гэта ўжо старая і хворая жанчына, столькі перацярпеўшая ў сваім жыцці. Атрымлівае невялічкую рэнту за мужа. Цешыцца, што дзеці добра жывуць, адзін з іх — Іван з'яўляецца найлепшым цырульнікам у Гайнаўцы. Грыша мае ўжо таксама сваю сям'ю — трое дзяцей. Дзеці вучацца добра. Жонка Надзя, як і яе муж, ветлівая і добрая гаспадыня. Жыхары Грабаўца ганарацца сваім аднавяскоўцам і бяруць з яго прыклад.

**М. Панфілюк**

## Патрэбны неадкладны рамонт

З Дубічаў Царкоўных да Вярстока, Войнаўкі і Палічнай ідзе асфальтаваная дарога. Ехалі мы па ёй у канцы красавіка. На ёй даволі вялікі рух. Пару разоў у дзень ездзіць аўтобус у Палічную. Ездзіць па ёй аднак трэба вельмі ўважліва. Асабліва на адрэзку Дубічы Царкоўныя - Чэхі Арлянскія. Тут на шашы праломы адзін за другім. Не абмінуць іх. Хутчэй шыю можна скруціць, калі хто едзе на матаролеры або матацыкле. Паколькі дарога калдобістая і язда па ёй небяспечная, гмінныя ўлады ў Дубічах Царкоўных павінны як мага хутчэй задбаць аб тым, каб яе адрамантавалі работнікі дарожнай службы.

**Іван Непаседа**

(Працяг са стар. 1)

— У Гарадку я працую ўсяго два гады, — заўважае **М. Лукошык**, — але амаль столькі ж часу я ўдзельнічаю ў нашым калектыве. Ён для мяне, як родная сям'я — у ім спявала мая сястра Тамара Лукошык, удзельнічае мой брат Уладзімір Лукошык, спявае мая гаспадыня, у якой я на кватэры, Галена Кот, дык не пайсці ў яго было б невыбачальнай няўдзячнасцю. Гэта па-першае, а па-другое — я люблю ўдзельнічаць у самадзейнасці. Пачала ж ад спявання ў хоры, а да працы ў драмгуртку заахвоціла мяне пані Мушынская. Вядома, адна справа выступаць у хоры, а зусім іншая — у тэатральным калектыве. Калі ў мінулым годзе я ўпершыню выйшла на сцэну, дык і ногі пада мной задрыжэлі і голас у горле замёр... Гэта была „Адвечная песня“ Я. Купалы, а ў „Горы чубатым“ сёлета пайшло ўжо значна лепш. Што ж, удзел у хоры і ў драмгуртку — для мяне вялікая прыемнасць.




— З ігрой на сцэне я пазнаёмілася яшчэ ў Міхалове, калі вучылася там у агульнаадукацыйным ліцэі. Ставілі мы „Прымакі“ Я. Купалы. І мне ігра на сцэне вельмі спадабалася, — прызнаецца **Н. Савіцкая**. — Калі стала працаваць у Гарадку, адразу пайшла ў калектыў. І спяваю там і ўдзельнічаю ў тэатральным калектыве. У 1975 годзе выступала ў „Міхалку“, а сёлета ў „Горы чубатым“. І я не толькі не стамляюся, але гэта мне прыносіць вялікіе задавальненне.

— О! Мой, так сказаць, сцэнічны дэбют адбыўся даўным-даўно, гадоў дзесяць назад! — усклікае **У. Лукошык**. — Яшчэ калі я вучыўся ў Бельскім педагагічным ліцэі. Праўда, гэта была інсцэнізацыя такой сабе казачкі для дзяцей, якая ішла звыш дзвюх гадзін, а гледачы, не хвалюся, увесь час сядзелі з адкрытымі ад захаплення ратамі. Ставілі мы яе разоў восем для дзяцей Бельска і ўсяго наваколля. Іграў я і ў школьным аркестры, а настаўнічаючы ў Залуках, прымаў удзел у пастаноўцы „Прымакоў“. Будучы ў войску, удзельнічаў у калектыве мастацкага слова. У часе вучобы ў Галоўнай школе сельскай гаспадаркі ў Варшаве выступаў у прышкольным калектыве народнага тэатра „Промні“ („Першыя“). Там, на сцэне, даводзілася спяваць, танцаваць, дэкламаваць, выконваць ролі ў дыялогах. Люблю пераўвасабляцца ў іншыя персанажы, выяўляць словам і жэстам самыя глыбокія пачуцці іншага чалавека. Гэта цудоўныя рэчы!

**Ніна Мушынская** не любіць гаварыць пра сваю дзейнасць. Затое аб ёй увесь Гарадок кажа: „Калі б не пані Мушынская, дык нічога ў нас тут не было б. Гэта яна, не шкадуючы ні свайго часу, ні здароўя, аддала ўсю сябе самадзейнасці ў нашым мястэчку“. А быццам у апраўданне сваёй самаахвярнасці для самадзейнага мастацтва яна сама заўважае:

— Калі хочаш, каб у тваёй мясцовасці нешта добрае дзеялася, трэба гэтаму прысвяціць не мала і часу і працы, асабліва працы — прадуманай, цярплівай, сістэматычнай, тактоўнай. І словам і справай трэба заахвоціць, дапамагчы, параіць. Вельмі важна не дапусціць да таго, каб нешта пачаць і не выканаць. Тады людзі страцяць веру ў сваё пачынанне і гэта страшэнная небяспека для самадзейнікаў. Ну і ў кожную пастаноўку ці выступленне даводзіцца ўкладаць усё сваё сэрца — гэта аснова ўсяго.

Так, вядомая ісціна: мастацтва патрабуе самаахвярнай працы і шчырага сэрца.

**Мікалай Гайдук**



*Сцэна з „Гора чубатага“. Мар'я Лукошык (злева) і Наталля Савіцкая.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

# ЯК МАГА ХУТЧЭЙ ПАМАГЧЫ!

Старая жанчына ўжо 20 гадоў ляжыць. Не чуе, не бачыць, не можа хадзіць. У дакуменце напісана, што нарадзілася ў 1884 годзе.

Ёсць у нас такі закон, што калі чалавеку споўніцца 90 гадоў, яму ў форме ўзнагароды выплачваюць 1000 злотых. Кацярыне Грыцук з Пясчанікаў 90 год мінула даўнавата, але гміна ў Гарадку гэтага „не заўважыла“, і толькі праз доўгі час, калі людзі ў вёсцы знерваваліся, а Ольга Грэсь, зайшоўшы ў гміну, дала бобу ўраднікам, прыслалі тысячу злотых.

Кацярына Грыцук усё жыццё была самотная. У яе толькі дачка, якой цяпер 71 год. І яна сама хворая, але даглядае маці. Даглядае някепска па меры магчымасцей і, што найперш кідаецца ў вочы, — на панадворку і ў хаце гэтых старых жанчын, чыста, так чыста, як рэдка сустрэнеш у людзей старых і хворых.

Была ў Кацярыны Грыцук невялікая гаспадарка — 6 га. Ужо даўно здала яна яе дзяржаве. І які ж вынік усёй гэтай жыццёвай сітуацыі? Гміна ў Гарадку прысылае дачцы Кацярыны, Анне, цяпер 880 злотых паводле распараджэння № 22 ад 25.XI.1961 г. І гэта ўсё. Кацярына Грыцук не атрымлівае ад нікога ані граша і вымушана плаціць, як усе, за лякарствы (гэта значыць плаціць дачка, бо маці не ўстае з пасцелі, толькі за ўласнай патрэбай, ды і то ў хаце і пры дапамозе дачкі). А што будзе далей? А што будзе, калі зляжа і другая? Дачка Анна найбольш цяпер баіцца, што матка памрэ і не будзе за што пахаваць, бо няма ў іх ані граша.

Ці належыцца Кацярыне Грыцук грашовая дапамога? Несумненна, належыцца. У якой форме — гэта ўжо справа грамадскай апекі. Але мы звяртаем на гэты факт увагу ваяводскай апекі, тым больш, што работнікі гміны ў Гарадку не выказваюць ніякай уражлівасці на справы такіх вось старых, хворых, самотных і патрабуючых людзей.

Кожнаму ясна, што неадкладна патрэбна дадатковая дапамога старой Кацярыне Грыцук. І мы думаем, што так яна будзе патрактавана ўладамі па справах грамадскай апекі.

**Вера Леўчук**




*У лесе, па дарозе з Жэдні ў Міхалова, пачалі расці жалезабетонныя пліты. Вось вырасла адна такая вагой у звыш дзве тоны, якая якраз на скляпенне падыходзіць, і ляжыць ля самай дарогі ўжо амаль цэлы год, аж рассыпацца пачала. А ахвотнага падняць як не было, так і няма.* *(мша)*

ПОЛЬСКАЯ БЕЛАРУСІСТЫКА

# ВЫВУЧАЮЦЦА ЛІТАРАТУРНЫЯ СУВЯЗІ

Даследаванне беларускай літаратуры і ў прыватнасці польска-беларускіх літаратурных сувязей — адзін з напрамкаў работы Працоўні ўсходнеславянскіх літаратур, якая дзейнічае ў рамках Заклада славяназнаўства Польскай акадэміі навук пад кіраўніцтвам дацэнта др. габ. Васіля Белаказовіча. Гэта другая, пасля Варшаўскага універсітэта, акадэмічная ўстанова ў Польшчы, якая займаецца вывучэннем спамянутых пытанняў.

У шматбаковай беларусічнай дзейнасці працоўні на ўвагу заслугоўвае падрыхтоўка доктарскіх дысертацый, прысвечаных вывучэнню польска-беларускіх літаратурных сувязей. Ужо закончана дысертацыя Ул. Стохеля „Міцкевіч, Пушкін і Шаўчэнка ў беларускай літаратуры 1863 — 1917 г.г.“. Чарговыя тры тэмы распрацоўваюцца Ул. Манахам — „Беларускі фальклор у творчасці Міцкевіча, Сыракомлі і Ажэшка“, Ул. Вільчынскім — „Сыракомля і ўсходнеславянскія літаратуры“ і Вацлавам Шэршуновічам — „Погляды К. А. Яворскага на ўсходнеславянскія літаратуры“. Усе яны працуюць пад навуковым кіраўніцтвам дацэнта В. Белаказовіча.

Важнейшыя аспекты доктарскіх дысертацый, а таксама іншыя тэмы, якія датычаць літаратурнага ўзаемадзеяння і супрацоўніцтва, абмяркоўваюцца на арганізуемых працоўняй навуковых сесіях, у якіх удзельнічаюць спецыялісты-літаратуразнаўцы з розных акадэмічных установ Польшчы. На гэтых сесіях былі прадстаўлены і спамянутыя даследаванні Ул. Стохеля, Ул. Манаха і Ул. Вільчынскага, а таксама праца В. Рудчыка „Польска-беларускае літаратурнае супрацоўніцтва першай паловы 19 стагоддзя“.

Найбольш цікавыя даследаванні, якія праводзяцца ў рамках дзейнасці Працоўні ўсходнеславянскіх літаратур, друкуюцца ў яе гадавіку „Studia polono-slavica-orientalia Acta literaria“. Прыемна заўважыць, што на яго старонках значнае месца займаюць пытанні беларускай літаратуры і яе міжнародных кантактаў. Так, напрыклад, у першым выпуску „Студыяў“ (1974 г.) змешчаны даследаванні Ул. Манаха „Беларускі фальклор у лірыцы Сыракомлі“, Ул. Вільчынскага „Паштальён“ Сыракомлі ва ўсходнеславянскіх перакладах“ і Ул. Стохеля — „Польская, руская і ўкраінская літаратура на старонках „Нашай нівы“.

Другі том „Студыяў“ (1975 г.) змяшчае распрацоўку Зоф'і Скібінскай-Харыла аб перакладах міцкевічаўскага „Пана Тадэвуша“ на беларускую мову, а таксама даследаванне Сakрата Яновіча аб перакладах беларускай літаратуры на польскую мову ў пасляваенны перыяд. Дзве абшырныя тэмы прадстаўлены ў мінулагоднім выпуску гадавіка. Гэта працы Ул. Стохеля аб успрыняцці творчасці Міцкевіча, Пушкіна і Шаўчэнкі ў беларускай літаратуры 1863—1917 гг. і Ул. Вільчынскага — „Сыракомля і ўсходнеславянскія літаратуры“. Варта падкрэсліць, што гэтыя беларусічныя даследаванні займаюць большую частку трэцяга выпуску „Студыяў“.

Важным напрамкам дзейнасці працоўні з'яўляюцца дакументацыйна-бібліяграфічныя даследаванні, якія датычаць успрыняцця ўсходнеславянскіх літаратур у Польшчы і польска-ўсходнеславянскіх літаратурных кантактаў. Як паказалі гэтыя даследаванні, на старонках „Вядомосці літэрацкіх“ за ўсё міжваеннае дваццацігоддзе былі надрукаваны ўсяго... чатыры артыкулы, прысвечаныя беларускай літаратуры. Гэта своеасаблівы паказчык, які дазваляе зразумець і ацаніць рост зацікаўленняў беларускай літаратурай у Польшчы, які адбыўся ў пасляваенны перыяд.

Амбітныя планы беларусічнай навукова-даследчай дзейнасці працоўні ў бягучай пяцігодцы 1976-1980. Побач з далейшым развіццём спамянутых напрамкаў яе працы, пачнецца падрыхтоўка абшырнага манаграфічнага выдання „Гісторыі беларускай літаратуры“, апрацоўка якога будзе праводзіцца ў супрацоўніцтве з Акадэміяй навук БССР, а таксама вучонымі Варшаўскага і Вроцлаўскага універсітэтаў. Будзе гэта першая ў Польшчы грунтоўная праца, прысвечаная беларускай літаратуры.

**Ю. Туронак**

(Працяг са стар. 3)




— Ужо раз выклікаў і зноў ялоўка быдлуе. Выпусці сваіх бычкоў, хай разам пабегаюць...

— Мне нельга...

— Нельга! Нельга! Паўтараеш гэта, як малітву.

Ну і як тут не ўступіць? Сваркі я не люблю, стараюся ўсім дагадзіць, дык і сапраўды часценька ўступаю з гэтымі сваімі бычкамі. Яны ў мяне слаўныя, добра адкормленыя, вялікія, бо гэта „шаралезы“ — французская мясная парода з дабаўкай польскай чырвонай. Значыць, пародзістыя яны. Такімі бацькамі толькі ганарыцца трэба. Чаму ж тады мне не ўступіць, калі добрыя людзі просяць, ды яшчэ заплату абяцаюць. Хай яны, значыць мае бычкі, крыху папрацуюць на сябе. Ім гэта не зашкодзіць, яшчэ весялейшыя будуць.

Найчасцей дагаварваўся я, каб выпускалі сваіх кароў у той час, калі я сваіх кожны дзень пад вечар ганю да вадапою, а летам — на пасбішча. Нібы гэта выпадкова яны сустракаюцца.

— Няўжо да гэтага прычапіліся? — думаў я, чакаючы сваёй чаргі ў залу, дзе засядала гэта калегія.

— Вы дзікіх расплоднікаў трымаеце, — заявіў мне старшыня.

— Ніякіх дзікіх расплоднікаў я не трымаю, — гавару я яму. — У мяне кантрактаваныя бычкі, французскай пароды „шаралез“ з дабаўкай польскай чырвонай.

— Бачыш, які хітрун! — адзываецца яшчэ адзін з гэтай калегіі, наймалодшы з іх усіх. Прышпіліць яму 1000 злотых быковага, хай ведае, што нельга тармазіць развіцця жывёлагадоўлі!

— Я тармажу?... То ж у мяне аднаго тры букаты, тры дойныя каровы, дзве ялоўкі і двое цялят. Разумееш! А колькі яшчэ свіней! І я тармажу...

— А каб вы ведалі, — упэўнена гаворыць аграном. — Адзін жывы бычок можа абслужыць усяго ледзь нейкіх 150 каровак за сезон. Затое насення ад аднаго добра адкормленага расплодніка хопіць на апладненне ад пяці да дзесяці тысяч красуль. Разумееце, якая ашчаднасць! У рамках інсемінацыі можна паменшыць колькасць быдлячых кавалераў у 50 разоў. На гэтае месца можна паставіць кароў або цялят. Разумееце?

Што ж, я ўжо не такі дурны, каб не разумець. Вяртаўся дамоў бяднейшы на паўтары тысячы злотых.

Зразумець то я зразумеў, але прымірыцца мне цяжка. Інсемінатар жыве ў другой вёсцы. Трэба выклікаць яго па тэлефону або разам з кароўкай адпраўляцца пяць кіламетраў у дарогу. Пакуль дазвонішся да пошты, пакуль пошта спалучыць з гэтай вёскай, а там або хто прыме тэлефон і паведаміць шклянаму бычку, каб захацеў прыехаць, або проста і к чорту пашле, каб галавы не дурылі. Ад усяго гэтага не толькі гаспадару, але і карове адхочацца... А тут — бычок пад рукой. Вунь як морду задзёр і смяецца... Аж сліна ў яго з носа цячэ...

**Максім Нурэцкі**




## БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

Як ні дзіўна, але Ірэна пазнаёмілася са сваім будучым мужам на могілках. А было гэта так. У Ірэны памерла маці. Спачатку з бацькам, а пасля адна прыходзіла яна на магілу нябожчыцы. Садзіла там кветкі, ставіла свечкі і лампадкі і, паплакаўшы і памаліўшыся, адыходзіла сумная, прыбітая. На магілу свайго бацькі, якая была ў некалькіх дзесятках метраў адсюль, прыходзіў Вадзім. Любіў ён свайго бацьку больш за маці, бо быў ён вельмі чалавечны. І аднойчы, праходзячы каля магілы маці Ірэны, загаварыў ён да Ірэны; наступным разам гутарка была даўжэйшай. Дагаварыліся яны прыходзіць на магілы ў тыя самыя дні і гадзіны і разам адыходзілі дахаты. Пасля яны менш займаліся магіламі, а больш сабою. Пачалі сустракацца ў горадзе. І так памаленьку ішло да жаніцьбы, а жаніцьба, вядома, звязана з немалымі выдаткамі. Вось таму бацька Ірэны сустрэўся з Вадзімавай маці, каб супольна абмеркаваць усе арганізацыйныя справы вяселля. І гэтая сустрэча ў хаце Вадзіма была нязвыклай, бо бацькі спадабаліся адно другому. Спраў вясельных не маглі ў той вечар абмеркаваць. Абмяркоўвалі яшчэ два вечары. А на чацверты вечар загаварылі аб сваёй жаніцьбе. І каб менш было выдаткаў, пастанавілі ў той жа самы дзень, што і іх дзеці, браць шлюб. Дагаварыліся, што пасля вяселля Вадзім пяройдзе жыць да Ірэны, а бацька Ірэны будзе жыць у хаце Вадзімавай маці.

Вяселле было гучнае, было многа гасцей і многа радасці. Горкую гарэлку саладзілі бацькі і дзеці. Ірэна і Вадзім распачалі сваё сямейнае жыццё, шчаслівыя, згодныя, закаханыя. Сталі думаць, як гэта набыць грошай, бо многа чаго трэба было прыдбаць. Знайшліся дарадчыкі. Падказалі, што можна выехаць у Амерыку да сваякоў і там зарабіць долараў.

У пажаніўшыхся ж бацькоў хутка пачалася нязгода. Маці Вадзіма паводзіла сябе так, як пры першым мужу, не лічачыся са словамі, была куды горшай гаспадыняй ад маці Іркі. Ды і чалавекам была горшым. Другі яе муж моцна перажываў гэта і ўсё больш шкадаваў нябожчыцу. Нарэшце не вытрымаў і вярнуўся ў сваю хату.

Пакінутая кабета стала ачарняць яго і сваю нявестку Ірэну, стала пісаць лісты да сына ў Амерыку, што яго жонка дрэнна даглядае дзіця і за чужымі мужчынамі аглядаецца. І Вадзім змяніў тон лістаў, ды ў след за маткаю без віны стаў абвінавачваць Ірэну. А калі ж вярнуўся з Амерыкі, не зайшоў адразу да жонкі і сына, які нарадзіўся ў часе яго адсутнасці, але пайшоў да маці. Тая ў такіх чорных колерах прадставіла паводзіны Ірэны, што ён пачаў думаць аб разводзе з няверной жонкай.

Але дзякуючы добрым людзям, стараннях Ірэны і бацькоўскім пачуццям, Вадзім прыйшоў да Ірэны і сам зразумеў, што мсцівасць роднай маці да ўсёй сям'і Ірэны заагняла іх адносіны. Ужо не слухаў таго, што даказвала маці, быццам будзе Ірэна добрай жонкай да тых пор, пакуль не выцягне ў яго ўсіх зароблених грошай.

Маці Вадзіма зайздаў і той факт, што бацька Ірэны меў ужо другую жанчыну і, паводле яе думкі, куды горшую за яе. З гэтай жанчынай ён не браў шлюбу, але прывёз яе ў сваю хату, якую разгарадзіў так, каб і ён і Ірэна з мужам мелі па два пакоі. І жылося ўсім добра, і адносіны ў хаце паміж гэтымі дзвюма сем'ямі былі вельмі добрыя. І вось нядаўна гэтая трэцяя жонка бацькі Ірэны нарадзіла дачку. І шчасця ў гэтай хаце стала яшчэ больш. Гармонію ў гэтай хаце парушае часамі маці Вадзіма, якая абзаве былога свайго мужа, або сваю нявестку, а нават і сына Вадзіма.

**Міхась Сваяк**

### РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



*Вёска Вераб'і.* *Фота Я. Цялушэцкага.*




*Ой, потопіла мэнэ матёнка,*
*як колопэнько ў воду.*
*Ой, нэ так мэнэ ж, молодэнькую,*
*як мою слічну вроду,*
*ой, нэ так мэнэ, молодэнькую,*
*як мою слічну вроду.*
*Колопня мокнэ, колопня мокнэ —*
*ідут людэ вытягаті.*
*За ліхім мужом, за нэдбаюшчым*
*я мушу пропадаті,*
*за ліхім мужом, за нэдбаюшчым*
*я мушу пропадаті.*
*Пожыву рочок, пожыву другі,*
*на трэці потовкуся,*
*а як вон жэ мніе нэ поправіться —*
*пойду і ўтоплюсь,*
*а як вон жэ мніе нэ поправіться —*
*пойду і ўтоплюсь.*

*— Нэ топісь, донько, нэ топісь; родна,*
*бо ты душу загубіш.*
*Людэ говорат, я й сама знаю,*
*што ты ёго нэ любіш,*
*людэ говорат, я й сама знаю,*
*што ты ёго нэ любіш.*
*— Нэ люблю, мамо, нэ люблю, родна,*
*я й любіті нэ буду,*
*а як вон жэ мніе нэ поправіться,*
*я з ім жыті нэ буду,*
*а як вон жэ мніе нэ поправіться,*
*я з ім жыті нэ буду.*
*Жыву я й рочок, жыву я й другі,*
*а на трэті наступае:*
*Ой, нэма шчастя, ой, нэма долі —*
*дійчына пропадае,*
*ой, нэма шчастя, ой, нэма долі —*
*дійчына пропадае.*

Ад Веры Міхалюк, 56 год, вёска Курашава гм. Чыжы, запісаў 3 лютага 1977 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

МІНІ-ІНТЭРВ'Ю СА ЗДЫМКАМ

## Не смяюцца, а зайздросцяць



„Родная зямелька, як зморанаму пасцелька“, — кажа прыказка, і яе праўдзівасць на прыкладзе ўласнага жыцця праверыў **Казімір Яцкевіч** з вёскі **Богушы** каля Саколкі. Атрымаўшы кваліфікацыі механіка аўтамабільнага транспарту, ён няблага ўладкаваўся на работу ў Беластоку. Хоць работа была па душы і заробкі таксама нядрэнныя, ўсё ж яго цягнула ў роднае сяло. Пачаў ён бываць дома ўсё часцей і часцей, а ўрэшце і зусім вярнуўся ў родную хату. Спачатку гаспадарыў на 15 бацькоўскіх гектарах, а ў мінулым годзе ўзяў яшчэ 15 га ўдзірванелай і запушчанай зямлі, здадзенай прастарэлымі сялянамі за пенсію дзяржаве.

— Найцяжэй было пераламаць застарэлыя, кансерватыўныя погляды людзей са сваёй вёскі на справы гаспадарання па-новаму, — кажа К. Яцкевіч. — Калі я пачаў вялікую гадоўлю курэй — вёска ў смех, на вуліцу выйсці не давалі розныя насмешнікі, у якіх на гаспадарцы голь голем, затое язык надта спраўны і багаты. Куры ж пайшлі вельмі добра, і яны памаглі мне стаць на ногі. Калі паявіліся цяжкасці з кормам для курэй, перайшоў я да гадоўлі свіней у кааперацыі з сакольскім СКР-ам. Жартаўнікі ў смех, а я ў мінулым годзе здаў 40 кормнікаў, цяпер на маёй ферме стаіць 100 штук. З кормам не маю цяжкасцей — штодня прывожу з сакольскай малачарні сыроватку. Маю яшчэ 4 дойныя каровы, іншай жывёлы не трымаю.

— А што на полі?

— Ужо пяты год кантрактую насенную бульбу, рэкордную яе колькасць паставіў я ў 1975 годзе, аж 80 тон, найлепшага гатунку. Дастаўляю таксама шмат збожжа. У бягучым годзе маю намер пасадзіць 5 га бульбы, засеяць 5 га ячменю, 5 га аўса, жыта маю 3 га, рэшта — гэта расліны на зялёны і квашаны корм.

— І як вы з усім гэтым упраўляецеся?

— Не скажу, каб лёгка было. Працуем мы толькі ўдваіх з жонкай. Дзеці, а іх у нас чацвёра, яшчэ малыя. Калі б не машыны, нічога мы не зрабілі б. Але ў мяне поўны камплект уласных сельскагаспадарчых машын і новенькі трактар, які я толькі што купіў. Што ж, вельмі прыдаліся мае кваліфікацыі механіка — я сам усё рамантую. Ну, і многа чытаю сельскагаспадарчых кніг і часопісаў.

— З чым давялося вам найцяжэй?

— Не з чым, а з кім. Гэта значыць, з тымі людзьмі, якія пастаўлены дапамагаць селяніну, а яны сваёй абыякавасцю да службовых абавязкаў толькі шкодзяць чалавеку і гаспадарцы. У мінулым годзе, напрыклад, сакольская насенная цэнтраля давяла да таго, што ў мяне на падворку змарнавалася 20 тон дасканалай бульбы. А вось цяпер працаўнікі сакольскага СКР-у ніяк не могуць устанавіць, ці яны маюць забяспечыць маю ферму ветэрынарным наглядам і лячэннем, калі трэба будзе.

— Якія планы?

— Весці ферму свіней на 100 штук з уласнымі свінаматкамі, павялічыць колькасць дойных кароў, спецыялізавацца ў вырошчванні насеннай бульбы і так планаваць севазварот на полі, каб забяспечыць усю сваю гадоўлю ўласнымі кармамі ды яшчэ і кантрактаваць некалькі добрых гектараў.

— Ці смяюцца яшчэ жартаўнікі?

— Даўно ўжо перасталі. Цяпер толькі зайздросцяць!..

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара

